# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

**№7** (254)
**ліпень 2023**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## Беларусы ў ЗША змагаюцца за наданне ім асаблівага статусу

Беларусы ЗША вядуць працу з Кангрэсам ЗША, каб дадаць Беларусь да спісу краін, дзе распаўсюджваецца Часовы Абаронены Статус (Temporary Protected Status). Такі статус надае ахову ў Злучаных Штатах для асобаў, якія жывуць у ЗША і каму пагражае небяспека па вяртанні на радзіму.

Старонка 7

**НЕ ВАЙНЕ!**

**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**



# Яраслаў Іванюк: КАЛІ Б БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА БЫЛА НЕПАТРЭБНАЯ, МЫ Б ГЭТЫМ НЕ ЗАЙМАЛІСЯ

Інтэрнэт-бібліятэку “Камунікат” называюць самай буйной беларускай бібліятэкай у сецыве. Аднак і да яе дабралася цікавасць беларускага Міністэрства інфармацыі. На гэтым тыдні яна трапіла ў спіс “забароненых” і была заблакаваная ў Беларусі. Выглядае на тое, што гэта ўжо традыцыя – знішчэнне ці не ўсяго беларускага на тэрыторыі краіны.

Яраслаў Іванюк, стваральнік бібліятэкі, падаецца, асабліва не пераймаецца з гэтага факту. Ён разумее, што абмежаваць ані свабоду слова, ані свабоду творчасці, ані свабоду распаўсюду інфармацыі ў сучасным свеце немагчыма. Пра гэта, пра новыя праекты і пра тое, як ён ставіцца да гэтага абмежавання, ён распавёў у інтэрв’ю для budzma.org.

**– Яраслаў, Мінінфармацыі заблакавала вашую бібліятэку ў Беларусі. Раскажыце, калі ласка, што такое “Камунікат”, і як вы ацэньваеце дзеянні беларускага Мінінфарму?**

– “Камунікат” – гэта беларуская інтэрнэт-бібліятэка, і шмат хто гаворыць, што гэта найбуйнейшая беларуская інтэрнэт-бібліятэка ў сецыве. Ці найбуйнейшая яна – мне цяжка сказаць ці акрэсліць, але ў “Камунікаце” на сёння сабрана больш за 55 тысяч рознага тыпу беларускіх публікацый – гэта газеты, часопісы, кнігі, аўдыякнігі, аўдыяфайлы – у прынцыпе ўсё, што збіраюць і традыцыйныя бібліятэкі.

Па сутнасці, ад самага пачатку і да сёння мы прытрымліваемся двух прынцыпаў дзейнасці: сабраць у адным месцы як найбольш публікацый на беларускай мове і пра Беларусь, і каб усё, што ў нас даступна, было даступна бясплатна. І ўсё ж “Камунікат”, як ён быў заснаваны 23 гады таму, у 2000-м годзе, застаецца перш за ўсё інтэрнэт-бібліятэкай.

Апрача таго, у 2021 годзе мы пачалі займацца выдавецкай дзейнасцю, выдаваць папяровыя кнігі. Пачалося гэта з рамана Уладзіміра Някляева “Гэй Бен Гіном”. Пасля выдання гэтай кнігі і дзесяці прэзентацый у Польшчы і Літве мы зразумелі, што гэта запатрабавана беларускай эміграцыяй і беларускай дыяспарай у Еўропе – наклад кнігі Някляева на гэтых прэзентацыях разышоўся поўнасцю.

І таму мы працягнулі выдавецкую дзейнасць. У 2022 годзе на працягу 10 месяцаў мы выдалі 10 кніг Уладзіміра Арлова, зборнік Ганны Янкуты, удзельнічалі разам з Беларускай Радай Культуры ў выданні зборніка “Нерасстраляныя”, – гэта манументальная кніга з творамі і апісаннем асобаў, каляндар са словамі і малюнкамі на кожны дзень.

Таксама займаемся выданнем беларускіх аўдыякніг, іх ужо ёсць пад 20, і сярод іх – першая кніга з пяці Святланы Алексіевіч, – “У вайны не жаночы твар” – у перакладзе на беларускую мову Валянціна Акудовіча.

Што ж тычыцца блакіроўкі бібліятэкі ў Беларусі – то што ж, з аднаго боку можна сказаць, што ўрэшце ацанілі нашу працу. Шмат хто і тэлефанаваў і пісаў у месенджарах і пытаўся: “О! Толькі цяпер? Я быў перакананы, што ў Беларусі ваш сайт ужо даўно недаступны!” Нават складана адказаць на пытанне, чаму гэта здарылася. Я сам шукаю адказу, але, праўда, у Беларусі ўжо мала хто пытаецца, за што людзі сядзяць у турмах, за што іх судзяць…

Таму і мы не павінны ўжо так шмат думаць, за што нас заблакавалі.

Працяг на старонцы 3.

навіны

# 30 ГАДОЎ ТАВАРЫСТВУ "УЗДЫМ"



15 ліпеня ў Цэнтры латышскай культуры горада Даўгаўпілса адбылося вялікае свята, прысвечанае 30-годдзю беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым".

На юбілейный канцэрт прыйшлі людзі, якім было цікава пазнаёміцца з беларускай культурай, а таксама прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Адкрылі свята маладыя вядучыя Алёна Радзівонава і Яўген Германовіч.

У канцэрце прынялі ўдзел таленавітыя беларусы Латвіі і Літвы. Прагучалі беларускія народныя і аўтарскія песні ў выкананні калектываў "Купалінка", "Спадчына" і "Пралескі". Сваімі танцамі парадаваў гледачоў танцавальны ансамбль "Лянок" Цэнтра беларускай культуры. Выступілі госці з Рыгі - беларускі ансамбль "Надзея", з Вісагінаса - саліст Сяргей Шабадалаў. Сваім вакальным выкананнем парадавала гледачоў Жанна Слядзеўская, якая зусім нядаўна стала членам нашага таварыства. Не адбылося і без сюрпрызаў! Старшыня Саюза беларусаў Латвіі Алена Лазарава выконвала сольна песню "За ціхай ракою" кампазітара Сяргея Трафімава ў перакладзе на беларускую мову Ліліі Воранавай.

Са сцэны прагучалі віншаванні ад заснавальнікаў беларускага таварыства "Уздым" - Іосіфа Рэута, Міколы Паўловіча, Міколы Навуменка, Станіслава Валодзькі. Станіслаў Валодзька прачытаў свае вершы, прысвечаныя таварыству – "Уздым" і "Сябрам".

Да сяброў "Уздыма" з віншаваннямі і добрымі пажаданнямі звярнуліся: першы віцэ-мэр Даўгаўпілскай гарадской думы Аляксей Васільеў, арганізатар культурных мерапрыемстваў гарадской думы Вікторыя Цырсэ, генеральный консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Ілля Лапуць, старшыня Саюза беларусаў Латвіі Алена Лазарава. Павіншаваць сваіх сяброў таксама прыйшлі рускае, літоўскае, яўрэйскае таварыствы і прадстаўнік спартыўнага таварыства інвалідаў, прыехалі госці з горада Ліваны.

Таварыства "Уздым" шчыра выказвае падзяку гарадскому аддзелу культуры горада Даўгаўпілса, консульству Рэспублікі Беларусь, фундатарам за дапамогу і падтрымку ў правядзенні гэтага цудоўнага свята.

**Член праўлення таварыства "Уздым" Таццяна Блізнакова**

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе ўсіх сяброў беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" з юбілеем! Зычым вам яшчэ большага натхнення і як мага болей яскравых падзеяў у жыцці супольнасці!

# ЗАХАРУ ШЫБЕКУ – 75!



Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе шаноўнага юбіляра і зычыць моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, натхнення і заўжды бадзёрага настрою!

30 ліпеня 1948 года ў вёсцы Асінаўка на Сенненшчыне нарадзіўся гісторык, прафесар Захар Шыбека. Падчас сваёй кар'еры быў дырэктарам Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, узначальваў Беларускі калегіум, даследаваў гісторыю Менску, эканамічнае развіццё беларускіх гарадоў і нацыянальнага руху. Цяпер даследнік стала пражывае ў Ізраілі.

**– Наколькі вялікая дыяспара ў Ізраілі?**

– Яўрэі, што прынялі ўдзел у пратэстах 2020 года, зразумелі, што для іх адзіны выхад – ратавацца ў Ізраілі. Я сустракаю даволі многа знаёмых з Беларусі, але на жаль, цяжка сувязь з імі падтрымліваць. Увесь час забірае сям'я, дзеці, клопат, жаданне зрабіць штосьці для навукі.

**– А над чым вы цяпер працуеце?**

– Я адчуваю сябе эмігрантам, я не рэпатрыянт, не яўрэй. Я пачуваюся, як і раней, беларусам. У Ізраілі я атрымаў магчымасць выбіраць усякую тэму і збіраць матэрыялы на гэтую тэму, ездзіць у камандзіроўкі, навуковыя канферэнцыі. Але гэта на чатыры гады, на якія я атрымаю стыпендыю Шапіры. Усё-такі, тое, што я паспеў, – назапасіць матэрыялы. Не стае часу, каб вельмі плённа працаваць у навуцы. Я сёння не губляю надзею, што завяршу тэму, што я выбраў раней – "Гісторыя яўрэяў Менску ў перыяд царскай Расеі". Ну паралельна з гэтай тэмай я працаваў навуковым кіраўніком калектыўнага навуковага праекту "Гісторыя рознічнага гандлю ў Беларусі". Гэты праект ініцыявалі прадпрымальнікі з Беларусі. І толькі сёлета мне ўдалося выдаць першы том з трох.

**Вольга Сямашка, racyja.com**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# Яраслаў Іванюк: калі б беларуская літаратура была непатрэбная, мы б гэтым не займаліся

Працяг са старонкі 1.

Мажліва, менавіта таму, што мы пачалі публікаваць аўдыякнігі Святланы Алексіевіч, нашай лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры, якая ў Беларусі рэжымам не прызнаецца. Магчыма, таму, што пасля смерці Алеся Пушкіна ў гарадзенскай турме мы рабілі рэпосты з інфармацыяй пра меркаваныя прычыны смерці, і гэта былі рэпосты з забароненых сайтаў. Можа быць, гэта выдавецкая дзейнасць, выданне папяровых кніг на патрэбу беларускай дыяспары. А магчыма, усе гэтыя прычыны разам узятыя. Але мы, напэўна, не думаем спыняць нашай працы, будзем напаўняць "Камунікат" новымі публікацыямі, надалей будзем адлюстроўваць беларускую перыёдыку, будзем запісваць аўдыякнігі, будзем перафарматоўваць тэксты беларускай літаратуры ў папулярныя фарматы для электронных чыталак…

Сайт быў створаны для людзей. Сайт быў створаны для аматараў беларускай літаратуры, і думаю, што гэтыя аматары беларускай літаратуры знойдуць магчымасць, як карыстацца нашым сайтам у такой сітуацыі, як цяпер. Ёсць тэхналогіі VPN, ёсць магчымасць знайсці сайт пад іншым даменам, аўдыякнігі можна слухаць на ютуб-канале "Камуніката", на іншых пляцоўках: гэта і Apple, гэта і Google, гэта і Spotify, гэта і Soundcloud – з дзясятак такіх пляцовак. Так што запрашаем, заахвочваем карыстацца там, дзе гэта магчыма.

**– З аднаго боку вы сказалі, што не спыняеце сваёй дзейнасці ў сувязі з забаронай у Беларусі, з іншага – кажуць, у карыстальнікаў была складанасць з заходам на сайт і за некалькі дзён да забароны, з-за тэхнічных работ на сайце. Вы рыхтуеце чытачам нешта новае і цікавае?**

– Наш сайт тэхналагічна крыху састарэў, таму што гэта тэхналогія, якой гадоў, напэўна, больш за 15. Таму мы сёлета публікуем "Камунікат" у новай версіі. Сайт будзе хутчэй адкрывацца, карыстальнікам будзе больш зручна ім карыстацца, а па змесце нічога не зменіцца.

Кожны сайт раз у нейкі час патрабуе нейкіх зменаў. Я не скажу, што гэта будзе нейкая там "тэхналагічная рэвалюцыя", але спадзяемся, што будзе больш зручна карыстацца нашым сайтам.

Застанецца таксама раздзел навінаў, дзе мы будзем публікаваць інфармацыю пра беларускую культуру і беларускую літаратуру, будзем публікаваць праваабарончую інфармацыю… з гэтага пункту гледжання нічога не зменіцца, а сайт будзе крышку абноўлены і ў новай абалонцы.

**– Што тычыцца папяровых кніг, з паўгода таму ў інтэрв'ю "Будзьме" вы казалі: "Беларусы ў плане чытання кніг зрабілі крок на 10 год назад. Апроч аўдыякніг і е-букаў, якія мы працягваем ствараць, хочуць чытаць на паперы!"…**

– Займаючыся электроннай бібліятэкай, якая на той час працавала пад лозунгам, вынайдзеным Алесем Камоцкім "Беражыце лес, чытайце кнігі на Kamunikat.org!", я ніколі не думаў, што я буду выдаваць папяровыя кнігі. Але мне заўсёды падабалася займацца тым, што патрэбнае на дадзены момант. І аказалася, што папяровая кніга на гэты момант патрэбная беларусам.

І калі Уладзімір Някляеў звярнуўся да нас з прапановай выдаць яго раман "Гэй Бен Гіном", я нават не думаў, рабіць гэта ці не, варта гэта рабіць, ці не варта. Таму што на той момант ніхто з беларускіх выдавецтваў, якія яшчэ існавалі тады ў Беларусі, не захацеў гэтага раману выдаваць. А я лічыў, што гэты раман павінен выйсці і павінен дайсці да беларускага чытача. А паколькі на той момант – 2021 год – тысячы беларусаў ужо з'ехалі з краіны, і яны патрабавалі беларускай літаратуры, таму мы вырашылі гэтую кнігу выдаць.




Кнігі ад фонду Kamunikat. Фота са старонкі Яраслава Іванюка ў Фэйсбуку

Я тады сказаў у адным інтэрв'ю для тэлеканалу "Белсат", што гэта "на жаль, перспектыўны праект". "На жаль", таму што і па сённяя я лічу, што беларускія кнігі павінны выходзіць у Беларусі. Таму што менавіта там і надалей застаецца асноўны чытач гэтай літаратуры.

Але, паколькі гэтыя кнігі патрэбныя таксама і дыяспары, таму мы вырашылі працягваць гэты праект – пасля рамана Уладзіміра Някляева мы выдалі і чарговыя кнігі, якія я крыху пералічыў на пачатку размовы.

Я вельмі рады супрацоўніцтву з Уладзімірам Арловым, які трэці год знаходзіцца, як ён сам сябе пазіцыянуе, "у дарозе", і ў гэтай дарозе таксама пішуцца новыя і перавыдаюцца старыя кнігі. І на гэтыя кнігі ёсць запыт з боку беларускай дыяспары. Ёсць зацікаўленасць гэтымі кнігамі.

Мы пераканаліся ў гэтым, з'ездзіўшы ў чэрвені гэтага года з турам-прэзентацыяй новых кніг Уладзіміра Арлова: другой часткі "Айчыны" і перавыданнем "Імёнаў свабоды", а таксама перавыданнем кнігі "Ад Еўфрасінні да Скарыны. Таямніцы Полацкай гісторыі". Мы наведалі больш за 10 гарадоў у чатырох краінах: Польшчы, Нямеччыне, Італіі і Літве – і ўсюды гэтыя кнігі карысталіся вялікай зацікаўленасцю беларускай дыяспары. Значыць, гэта патрэбнае, варта гэтым займацца. Магчыма, гэта праз такую настальгію, бо многія з гэтых беларусаў пакінулі тысячныя, шматтысячныя зборы ў сябе у Беларусі, магчыма, праз настальгію яны хочуць набываць цяпер у эміграцыі гэтыя кнігі. Але калі яны хочуць, калі ім гэта патрэбна, калі ім гэта дапамагае неяк у іх новай сітуацыі, тады і мы адказваем на гэтыя запатрабаванні. Вядома, ёсць не толькі фундацыя "Камунікат", але і выдавецтвы, якія ставяць гэта пунктам камерцыйнай дзейнасці. Ёсць выдавецтва "Янушкевіч", якое выдае шмат перакладаў і кнігі Альгерда Бахарэвіча, якія карыстаюцца вялікай зацікаўленасцю, асабліва – што цікавае – маладой публікі, маладых беларусаў. Я быў на двух мерапрыемствах у Варшаве: напрыканцы траўня на Міжнародным кніжным кірмашы, дзе сярод іншых прадаваліся кнігі Янушкевіча на стэндзе беларускіх выдаўцоў. І там стаялі чэргі, каб набыць гэтыя кнігі – па паўгадзіны, па 40 хвілін.

Таксама нядаўна быў у Варшаве на імпрэзе, дзе быў Альгерд Бахарэвіч, і там, каб атрымаць аўтограф, можа, і больш за гадзіну трэба было чакаць. І там стаялі маладыя людзі!

Ёсць выдавецтва Gutenberg Publisher у Кракаве, якое пачынае сваю дзейнасць, ёсць выдавецтва "Вясна" ў Празе… Я лічу, што калі б не былі патрэбныя гэтыя кнігі беларусам у замежжы, гэтыя выдавецтвы б не ўзнікалі.

**– Ці супрацоўнічаеце вы з кімсьці з гэтых, пералічаных вамі, выдавецтваў, ці з нейкімі іншымі?**

– З прадстаўнікамі беларускіх выдавецтваў мы сустракаемся на рознага кшталту імпрэзах, абмяркоўваем, што неўзабаве кожны з нас будзе выдаваць, чым будзе займацца. Пра нейкія супольныя праекты пакуль яшчэ размовы няма.

А калі казаць пра аўдыябукі, то мы супрацоўнічаем з акцёрамі, якія вымушана пакінулі Беларусь – з "Купалаўцамі", з акцёрамі з драмтэатра. Яны працуюць з намі пры агучцы кніг Святланы Алексіевіч. Таксама працуем са Змітром Бартосікам, які агучыў у нас ужо некалькі кніг з беларускай сучаснай літаратуры, з Віктарам Сямашкам…

**– У тым жа інтэрв'ю "Будзьме" вы казалі, што для вас выдавецкая дзейнасць – гэта больш гуманітарны, чым камерцыйны праект. Ці не змянілі вы сваю пазіцыю? Ці можа беларуская кніга быць камерцыйна паспяховай?**

– Мы ніколі не ставілі сабе за мэту зарабіць – як фонд, як арганізацыя некамерцыйная. Мы ніколі не ставілі сабе мэту зарабляць на выданні беларускіх кніг. Нават аўдыякнігі, якія мы выпускаем, выданнем якіх займаемся, у нас яны даступныя бясплатна. З беларускімі папяровымі кнігамі… Сапраўды, мы іх не раздаем, а прадаем – дзеля таго, каб большая пашана была да кнігі з боку саміх чытачоў. А ці можа быць беларуская кніга зараз быць бізнесам – тое трэба пытаць у выдаўцоў, напрыклад, у таго ж Андрэя Янушкевіча. Ужо ён бы, напэўна, адказаў, ці можна цяпер гаварыць пра беларускую літаратуру як бізнес.

**Аліна Бялова, budzma.org**

in memoriam

# Альгерд Бахарэвіч пра Алеся Пушкіна: ён верыў, што калі будзе нязломнай творчая эліта – паўстане і нацыя

"Апошні раз мы бачыліся з Алесем падчас аднаго з вераснёўскіх маршаў 2020-га. Сустрэліся выпадкова і прайшлі разам ад ГУМу да Палаца Спорту. Алесь нёс у руках партрэт Каліноўскага", – піша Альгерд Бахарэвіч на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

"Мы былі знаёмыя з 90-х. І чым даўжэй былі знаёмыя, тым радзей бачыліся і тым менш супадалі нашыя погляды. Адзіным, дзе паміж намі заўсёды была згода, былі беларуская мова і беларуская незалежнасць. Калі я пісаў пра ягоны самы славуты перформанс для адной са сваіх кніг, дык паказаў яму тэкст, каб нічога не наблытаць. Тэкстам ён быў задаволены. Дагэтуль памятаю фразу з аднаго ягонага інтэрв'ю: "Народ без нас як бараны рассеяныя…" Ён верыў у тое, што калі будзе нязломнай творчая эліта – паўстане і нацыя.

Алесь быў неймаверна таленавітым, правакацыйным і смелым мастаком і добрым чалавекам. Такім для нас і застанецца. Астатняе ўжо не важна. Застанецца мастаком і чалавекам, якога забілі ў турме. Забіла гэтая ўлада. Яго забілі за мову, за талент і смеласць. За тое, што ён беларус Алесь Пушкін.

І гэтае забойства даравацъ нельга. Як жа хочацца дажыць да суду над суддзямі і катамі. Калі мне кажуць, што Беларусь не канцлагер, я прызнаю, што тым, хто жыве ў ёй, лепш відаць і ведаць. Не дык не. Я толькі ціха прашу: тады скажыце, што ўсё, што мы чытаем тут у навінах, тое, што расказваюць нашыя знаёмыя і сябры – няпраўда. Скажыце, што гэта няпраўда. Маўчаць. Цікава: як адгукнуцца на гэтае забойства іншыя беларускія мастакі. Члены саюзаў, удзельнікі мілых бяспечных выставаў, тыя, хто робіць выгляд, што ўсё нармальна.

Але ўсё гэта і праўда не важна. Нацыяналізм, нашыя спрэчкі, нашыя падзелы на правых, левых, кансерватараў, нацыяналістаў, постмадэрністаў. Алеся няма. А тыя, хто яго ведаў – хто сядзіць, хто маўчыць, хто ўцёк, хто застаўся. Усім нам балюча.

Светлая памяць".

budzma.org

# У Нью-Ёрку адслужылі паніхіду па Алесю Пушкіну

Паніхіда прайшла 23 ліпеня ў катэдральным саборы БАПЦ св. Кірылы Тураўскага. Пасля яе адбылося мерапрыемства з памінальным абедам, арганізаваным фондам Крэчэўскага, прысвечанае ўшанаванню памяці палітзняволенага мастака.

Паніхіду адслужылі пратаярэй айцец Іван і дыякан Мікола – святарства сабору. Людзі трымалі ў руках свечкі, спяваў хор, у царкве стаялі партрэты мастака.

На памятнай імпрэзе ў гонар Алеся Пушкіна прамаўлялі людзі, якія добра ведалі жыццёвы шлях мастака альбо сутыкаліся з ім. Прысутныя ўзгадвалі ягоныя перформансы і шлях да беларушчыны.

Мадэратарам сустрэчы выступіла Ала Орса-Рамана, грамадзкая дзячка беларускай дыяспары ў Амерыцы і старшыня фонду Крэчэўскага.

Скульптар Гэнік Лойка ўзгадаў прыход і вучобу Пушкіна ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па выяўленчым мастацтве для адораных дзяцей.

Спадарыня Валянціна Трыгубовіч ведала мастака з 1990 года. Яна распавяла пра ягоную карціну «Эпітафія дзеду». Гэты твор з'яўляецца адным з першых палотнаў творцы, і быў адразу прыкмечаны як шэдэўр сусветнага ўзроўню. Яго шмат разоў рэпрадукавалі і набылі ў Нацыянальны мастацкі музей.

Таксама выступілі Алесь Пазняк, Міхась Чаропка, Ганна Сурмач, Віктар Едзізіновіч. Валер Дворнік прачытаў уласны верш, які ён прысвяціў мастаку.

Нагадаем, што беларусы Нью-Ёрка збіраліся ў сераду, 12 ліпеня, каб ушанаваць памяць па Алесю Пушкіну. Месцам правядзення акцыі стала плошча перад катэдральным саборам у Брукліне.

Палітвязня-мастака за некалькі тыдняў да смерці выключылі з Беларускага саюза мастакоў па рашэнні рады арганізацыі.

У сакавіку 2022 года творцу прыгаварылі да 5 гадоў калоніі строгага рэжыму. Адбываць пакаранне яго накіравалі ў папраўчую калонію ў Івацэвічах. Адміністрацыя ВК-22 ініцыявала перавод Алеся Пушкіна ў турму, нібыта за сістэматычныя парушэнні рэжыму ўтрымання. Па рашэнні суда мастака перавялі ў гродзенскую турму №1, дзе ён мусіў правесці паўтара гады.

У ноч з 10 на 11 ліпеня палітвязня прывезлі ў гарадзенскую лякарню ў непрытомнасці. Там мастак, паводле неафіцыйнай інфармацыі, памёр ад наступстваў прабадной язвы страўніка.

Мастака пахавалі на радзіме, у мястэчку Бобр Крупскага раёна. Як стала вядома, моцныя болі ў Алеся Пушкіна пачаліся яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня. Аднак турэмныя лекары абмяжоўваліся толькі абязбольвальнымі сродкамі. 11 ліпеня мастака не стала…

Алесь Пазняк, bielarus.info



навіны

# У БЕЛАСТОКУ СТВАРАЮЦЬ ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Цэнтр беларускай культуры, які плануецца найбліжэйшым часам адкрыць у Беластоку, будзе існаваць за кошт мясцовага бюджэту, паведамляе прэс-служба Аб'яднанага пераходнага кабінету (АПК) са спасылкай на маршалка Падляскага ваяводства Польшчы Артура Касіцкага.




"Маршалак ваяводства задэкляраваў, што паўстане Цэнтр беларускай культуры ў Беластоку, як польская культурная дзяржаўная ўстанова, але гэта будзе Цэнтр беларускай культуры, – гаворыць намеснік кіраўніка Аб'яднанага пераходнага кабінету Павал Латушка. – Спадзяюся, што ўсё ж такі словы, якія сказаў маршалак у прысутнасці прэзідэнткі-элект будуць выкананыя. Сёння мы не можам адкрыць з дзяржаўным фінасаваннем установу. Калі польская дзяржава гэта зробіць, гэта будзе добра. Паглядзім, будзем трымаць за слова. Прэзідэнт Беластока задэкляраваў 50 адсоткаў фінансавання для беларускага школьніцтва, для беларускай дыяспары. Гэта таксама вельмі добры і станоўчы вынік. Фестываль "Тутака" ўжо ўпісаны ў штогадовую праграму і будзе мець фінансавую падтрымку з бюджэту. Але галоўная справа сёння – захаванне беларускага школьніцтва. Гэта было галоўнай тэмай падчас размоў з ваяводам і маршалкам ваяводства".

Павал Латушка адзначыў, што для дэмакратычных сіл "вельмі важнай з'яўляецца падтрымка беларускай меншасці, якая стагоддзямі пражывае на Падляшшы і захоўвае сваю мову, культуру, традыцыі, развівае адукацыю".

Беларусаў Польшчы Латушка назваў "узорам для ўсіх", падкрэсліўшы, што іх дзейнасць матывуе і ўсяляе ўпэўненасць, што можна "аднавіць беларускасць і ў Беларусі".

Кіраўніцтва АПК сустрэлася з ім і іншымі прадстаўнікамі польскіх уладаў напрыканцы мінулага тыдня падчас візіту на Падляшша.

Паводле словах Артура Касіцкага, цэнтр будзе фінансавацца "на ўзроўні іншых польскіх устаноў культуры" ваяводства. Разам з падляшскім ваяводам Багданам Пашкоўскім ён заявіў пра гатоўнасць пракансультавацца з міністрам навукі і адукацыі Польшчы наконт магчымасці для навучэнцаў беларускамоўных ліцэяў і школ рэгіёну здаваць экзамены на беларускай мове.

У сваю чаргу, кіраўнік Беластоку Тадэвуш Трускаляскі паведаміў, што горад гатовы выдзеліць палову неабходных сродкаў і папросіць Міністэрства адукацыі і навукі аб суфінансаванні праекту па навучанні дзяцей з дыяспары беларускай мове і літаратуры.

racyja.com

# Алесь Лагвінец: ПЫТАННЕ БЕЛАРУСКАЙ АДУКАЦЫІ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ПА ЎСІМ СВЕЦЕ – ФУНДАМЕНТАЛЬНАЕ

Вольны беларускі ўніверсітэт (Free Belarus University, Wolny Uniwersytet Bialoruski, ВБУ/VBU) паўстаў з ініцыятывы 59 вядомых беларускіх навукоўцаў, дзеячоў культуры і мастацтва, у тым ліку Святланы Алексіевіч, Анжалікі Борыс і Алеся Бяляцкага.

Зараз ВБУ сканцэнтраваны на фармаванні кваліфікаваных кадраў для будучай дэмакратычнай беларускай дзяржавы. Дапамагае ў гэтым патэнцыял універсітэтаў Польшчы, Літвы, Эстоніі і другіх краінаў ЕС.

– Гэта ініцыятыва, што паўстала некалькі гадоў таму, дзякуючы Аляксандру Мілінкевічу, шмат беларускіх грамадскіх дзеячоў гэта падтрымалі. Цяпер мы на стадыі прапановы анлайн-курсаў. Пакуль мы не ёсць установаю з будынкам, з офісамі, з аўдыторыямі, дзе адбываюцца заняткі – у нас усё пакуль адбываецца ў віртуальнай сферы. Мы думаем пра магчымасці, ствараем для рэпрэсаваных выкладнікаў магчымасць выкладаць. Вядома, гэта залежыць ад фінансавання, якую колькасць выкладнікаў мы можам прыняць. Але такая магчымасць ёсць. Мы думаем пра тое, каб даць магчымасць беларусам, што цяпер ужо прафесары, абаранілі свае доктарскія дысертацыі ў заходніх універсітэтах, выкладаюць там, выкладаць для беларусаў прадметы, што яны выкладаюць у заходніх універсітэтах, але пераважна па-беларуску.

**– Ці можна сказаць, што ўніверсітэт мае нейкую сталую базу ў Польшчу?**

– Мы зарэгістраваныя як фонд у Польшчы, мы маем партнёрскія пагадненні з шэрагам універсітэтаў, найперш з Варшаўскім універсітэтам. У залежнасці ад праграмаў, што мы прапаноўваем, у нас могуць быць розныя партнёры, і зборльшага нашыя курсы падтрымліваюцца партнёрамі. Студэнты нашых курсаў атрымліваюць стыпендыі, а за сваё навучанне яны анічога не плацяць.



**– Ці кожны чалавек можа паступіць – вы бераце стандартных абітурыентаў, ці людзі ў выгнанні ў сталым веку таксама могуць навучацца?**

– Мы пакуль не выдаем універсітэцкіх дыпломаў, гэта наша мара. Мы хацелі б у будучыні стварыць паўнавартасны анлайн-універсітэт. Сёння гэта анлайн-курсы. Па сканчэнні кожнага курсу, асоба, што іх скончыла, атрымлівае сертыфікат, пацверджаны еўрапейскай навучальнай установай. З гэтага гледзішча мы хочам даваць цудоўныя веды пра грамадства, правы, эканоміку для беларусаў, і абмежаванняў у веку няма, але мы разглядаем матывацыю чалавека і гэта ёсць адным з чыннікаў, але шанцы трапіць на нашыя курсы даволі высокія.

Вольга Сямашка, racyja.com

навіны

# МУЗЕЙ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ АДСВЯТКАВАЎ СВОЙ ПЕРШЫ ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ

Музей ствараўся для захавання памяці аб падзеях 2020-га, але цяпер экспанаты расказваюць і пра вайну ва Украіне, і пра жыццё палітвязняў. Як за год змянілася канцэпцыя праекта, распавяла яго кіраўніца Наталля Задзяркоўская.



Сталая экспазіцыя Музея Вольнай Беларусі

Музей Вольнай Беларусі адкрыўся 17 ліпеня 2022 года на вуліцы Фоксаль (Foksal), 11 у гістарычнай камяніцы ў цэнтры Варшавы. Музей паўстаў па ініцыятыве Народнага антыкрызіснага ўпраўлення. Павел Латушка – часты госць музейных імпрэз. За год музей стаў значнай кропкай на мапе беларускіх мясцін польскай сталіцы .

На святкаванні першага Дня народзінаў Музея Вольнай Беларусі мы паразмаўлялі з кіраўніцай праекта Наталляй Задзяркоўскай.

– За год у музеі было мінімум дзевяць тысяч наведнікаў. Гэта вельмі сціпла падлічвалі: па сярэдняй колькасці людзей на кожным мерапрыемстве. У нас былі імпрэзы як сёння, дзе складана падлічыць дакладна. Быў калядны маркет, на які прыйшло каля тысячы чалавек. Самыя папулярныя імпрэзы – гэта тыя, на якіх мы задзейнічаем нашы ўнутраныя дворыкі (іх у музея два – рэд.).

Нам у музей прыносяць шмат прадметаў. Для людзей гэта рэчы з гісторыяй. Не ўсе з іх пасуюць для экспазіцыі, бо ёсць розніца між музейнымі прадметамі і рэчамі музейнага значэння. Музейны прадмет – гэта і налепка 2020-га года, і закрэслены бюлетэнь. Няма магчымасці ўсё паказаць. У экспазіцыю мы ставім усё найбольш яркае, ці з апошніх некіх рэчаў (узгадваюцца выставы новых паступленняў у больш традыцыйных музеях – рэд.). А так яно ўсё захоўваецца, ужо трэба думаць пра стварэнне фондасховішчаў.

Гісторыі рэчаў стараемся абавязкова запісваць ад тых, хто іх перадае. Просім заўсёды, канечне, відэа. Не ўсе пагаджаюцца. Але запісваем абавязкова. У камандзе музея я і мая памочніца. Дапамагаюць валанцёры. У развіцці музея я планую перш за ўсё ўласна музейнага супрацоўніка. Гэта складаная, крапатлівая праца, якая патрабуе пошуку, адбору, апісання, каб сфармаваць фонд. Гэта могуць рабіць валанцёры, але тады гэта не будзе сістэмнай працай.

Для нас, канечне, было вельмі важна захаваць арыгінальныя рэчы 2020-га. Зразумела, што і да 2020-га была гісторыя беларускага супраціву. Цяпер ужо рэчы пайшлі не звязаныя з гісторыяй пратэсту 2020-га, і гэта таксама пласт. Мы плануем гэта ўсё калісьці завезці ў Беларусь.

На Дні народзінаў у фонд музея перадалі карціну Вольгі Якубоўскай, робу палітвязня, асабістыя рэчы беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне, таблічку з надпісам “Сквер Вольнай Беларусі. Беласток” – копію той, што будзе вісець ля консульства нашай краіны.

Падчас свайго выступу на імпрэзе Наталля Задзяркоўская казала: “Першы год быў складаны. Складаны арганізацыйна, фінансава, тэхнічна. Але прыходзілі на гэту пляцоўку вы: эксперты, памагатары, валанцёры. Наша пляцоўка пачынала разнастайнымі ліхтарыкамі гарэць. Тут танчылі і спявалі, ладзілі выставы, кінапаказы. Тут былі гарачыя дыскусіі, вырашаліся сур’ёзныя пытанні. Але якія б тут імпрэзы ні былі, усе яны былі пра адно: пра Беларусь… Мы змаглі за гэты год стварыць куток нашай Беларусі тут, у цэнтры Варшавы”.

З першым днём народзінаў 22 ліпеня Музей Вольнай Беларусі павіншавалі палітык Павел Латушка, віцэ-маршалак польскага Сейму Малгажата Гасеўска, мецэнат беларускага руху князь Мацей Радзівіл, музыкі Уладзімір Пугач, Сяржук Доўгушаў, Маргарыта Ляўчук, Канстанцін Гарачы.

На імпрэзе выступіў таксама Варшаўскі вольны аркестр, а Аляксандр Ждановіч (Маляваныч) паказаў некалькі спектакляў для дзяцей.

Прайшоў вернісаж выставы Ігара Цішына “Ад краю да краю”. Яе можна будзе паглядзець да 20 жніўня. Інсталяцыя таго ж мастака “Дом, у якога разлятаюцца сцены” была першай выставай у Музеі Вольнай Беларусі ў ліпені 2022 года.

Падчас імпрэзы прайшла ўрачыстая перадача кнігі, у якой наведнікі музея пісалі спачуванні беларускім ваярам, што загінулі ва Украіне, прадстаўніку палка Каліноўскага.

**Алена Ляшкевіч, budzma.org**

# БЕЛАРУСЫ Ў ЗША ЗМАГАЮЦЦА ЗА НАДАННЕ ІМ АСАБЛІВАГА СТАТУСУ

Беларусы ЗША вядуць працу з Кангрэсам ЗША, каб дадаць Беларусь да спісу краін, дзе распаўсюджваецца Часовы Абаронены Статус (Temporary Protected Status). Такі статус надае ахову ў Злучаных Штатах для асобаў, якія жывуць у ЗША і каму пагражае небяспека па вяртанні на радзіму.

“Гэты статус прызначаецца па краінах, у якіх цяпер небяспечная сітуацыя для жыцця, – кажа кіраўніца Беларускай дыяспары ў Чыкага і прэзідэнт “Асацыяцыі беларусаў Амерыкі” Жанна Чарняўская. – Мы ведаем сітуацыю ў Беларусі, пра палітычны пераслед, людзей арыштоўваюць на мяжы. Ёсць небяспека для актывістаў пасля вяртання ў Беларусь. Мы гэты статус не атрымалі, змагаемся за тое, каб беларусам надалі гэты статус, які б ахоўваў беларусаў у Злучаных Штатах. Паводле гэтага статусу, людзі, якія знаходзяцца тут, нават не маючы дакументаў, маюць права працаваць і набываць медычную страхоўку, знаходзяцца пад абаронай Злучаных Штатаў Амерыкі.

Па стане на 2023 год, у адпаведнасці з пастановай Міністэрства нацыянальнай бяспекі ЗША, Часовы Абаронены Статус маюць, у тым ліку, Украіна, Самалі, Сірыя і Гаіці. Гэтая легальная мера дазваляе грамадзянам такіх краін знаходзіцца ў ЗША да 18 месяцаў і можа быць працягнута на нявызначаны тэрмін. Далучыцца да петыцыі і сачыць за яе рэалізацыяй можна тут: https://tinyurl.com/nhdwaswv

**racyja.com**




**навіны**

# ДОЖДЖ НЕ ПЕРАШКОДЗІЎ ПРАВЕСЦІ МАРШ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Дождж, які распачаўся ў Нью-Ёрку яшчэ з суботняга вечара, не напалохаў актывістаў, якія сабраліся на Марш паняволеных народаў" 16 ліпеня. Ён традыцыйна праводзіцца на трэцім тыдні ліпеня з 1959 года і адкрывае Тыдзень паняволеных народаў у ЗША. На ім Злучаныя Штаты выказваюць салідарнасць з народамі, што знаходзяцца пад таталітарным прыгнётам.

Сёлета Марш прайшоў па скарочанай праграме з-за надвор'я і неатрымання дазволу на набажэнства за паняволеныя народы ў Саборы св. Патрыка.

Але нягледзячы на абставіны, удзельнікі марша сабраліся каля гатэля "Плаза" на Манхэтане (перакрыжаванне 59 стрыт і 5 авэню). Актывісты трымалі ў руках нацыянальныя сцягі і плакаты на ангельскай мове. Таксама гучалі лозунгі "Жыве Беларусь!" і "Freedom!". Віталь Зайка, старшыня Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня", выступіў з прамовай пра змаганне беларусаў супраць рэжыму.

На дадзенае мерапрыемства сабраліся беларусы як Нью-Ёрку, так і Філадэльфіі.

А потым невялічкая калона рушыла ўздоўж Цэнтральнага парка і спынілася каля Мэйн-манументу (Maine Monument). Пад праліўным дажджом былі зачытаныя прывітальныя словы цяперашняга амерыканскага прэзідэнта Джо Байдэна.

"Тыдзень паняволеных народаў" пачаўся ў ЗША ў 1959 годзе пры прэзідэнту Дуайю Эйзенхаўэру, які падпісаў закон пра абвяшчэнне трэцяга тыдня ліпеня "Тыднем паняволеных народаў". Тады ж Эйзенхаўэр заснаваў антыкамуністычнае згуртаванне – Нацыянальны камітэт паняволеных нацыяў (National CaptiveNations Committee).

**Алесь Пазняк, bielarus.info**

# СВЯТЛАНА ЦІХАНОЎСКАЯ СУСТРЭЛАСЯ З БАЙДЭНАМ

12 ліпеня Святлана Ціханоўская сустрэлася з кіраўніком ЗША Джо Байдэнам. Беларуская лідарка распавяда Байдэну, што беларусы працягваюць змагацца за вызваленне сваёй краіны.

Сустрэча Святланы Ціханоўскай з прэзідэнтам ЗША адбылася адразу пасля выступлення Байдэна ў Вільнюскім універсітэце.

Падчас выступлення Байдэн згадаў Беларусь і заклікаў беларусаў не спыняцца.

"Вельмі ўдзячная прэзідэнту за гэту сустрэчу. Я данесла яму нашу пазіцыю, распавяла, што беларусы працягваюць змагацца за вызваленне сваёй краіны.

Я рада, што ў нас атрымліваецца непублічна пагаварыць пра тое, што нам сапраўды важна. Беларусы могуць разлічваць на падтрымку ЗША", – пракаментавала Святлана Ціханоўская.

Нагадаем, у камюніке па выніках сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін-сябраў NATO арганізацыя заклікала Беларусь спыніць дапамогу Расіі і адмовіцца ад варожых дзеянняў у дачыненні да сваіх суседзяў.

Таксама ў час правядзення саміту NATO ў Вільні па ініцыятыве Святланы Ціханоўскай адбыўся сайд-івэнт "Суверэнітэт Беларусі і трансатлантычная бяспека". Яго мэта – распавесці замежным партнёрам пра ключавое значэнне Беларусі ў сістэме рэгіянальнай бяспекі, давесці неабходнасць рашучых дзеянняў у дачыненні да рэжыму і прапанаваць супрацоўніцтва ў гэтым напрамку. "Беларусы заслугоўваюць жыць ва ўмовах свабоды, дэмакратыі і міру. Беларусы дастойныя месца ў еўрапейскай сям'і нацый. Гучыць як мара, але за гэтую мару варта змагацца. І я хачу, каб мы сёння абмеркавалі, як зрабіць гэтую мару рэальнасцю", – адзначыла Ціханоўская падчас сайд-івэнту.

**novychas.online**

## Беларускі каляндар памятных дат на жнівень 2023 года

**2 жніўня**

- 190 гадоў таму, у 1833-м, павешаны Міхаіл Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызваленчага руху.

- 70 гадоў таму, у 1953-м, памёр Сяргей Скандракоў, вучоны, краязнавец.

**3 жніўня**

- 70 гадоў таму, у 1953-м, нарадзіўся Валерый Шаблюк, гісторык. Памёр у 1997-м.

**4 жніўня**

- 185 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Юзаф Беркман, жывапісец. Памёр у 1919-м.

**5 жніўня**

- 115 гадоў таму, у 1908-м, памёр Валерый Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**12 жніўня**

- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Аляксандр Ружанцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1966-м.

**13 жніўня**

- 100 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Самсон Пярловіч, паэт. Памёр у 2001-м.

**14 жніўня**

- 65 гадоў таму, у 1958-м, памёр Эдзюк (Эдвард) Будзька, паэт.

**16 жніўня**

- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Мікола Абрамчык, прэзідэнт БНР. Памёр у 1970-м.

**17 жніўня**

- 20 гадоў таму, у 2003-м, памёр Павел Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**18 жніўня**

- 410 гадоў таму, у 1613-м, памёр Іпацій Пацей, царкоўны ўніяцкі і дзяржаўны дзеяч, пісьменнік-палеміст.

**19 жніўня**

- 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Баляслаў Слосканс, рэлігійна-грамадскі дзеяч беларускага замежжа. Памёр у 1981-м.

- 80 гадоў таму, у 1943-м, памёр Іосіф Воўк-Левановіч, мовазнавец.

**20 жніўня**

- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Уладзімір Пракулевіч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

**22 жніўня**

- 125 гадоў таму, у 1898-м, памёр Альгерд Абуховіч, пісьменнік.

- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Піліп Пестрак, пісьменнік.

- 35 гадоў таму, у 1988-м, памёр Віталь Вольскі (сапр. Вольскі-Зэйдэль), пісьменнік, літаратуразнавец.

**23 жніўня**

- 125 гадоў таму, у 1893-м, памёр Міхаіл Андрыёлі, мастак.

**24 жніўня**

- 95 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Янка Раманоўскі, мастак. Памёр у 1974-м.

**25 жніўня**

- 75 гадоў таму, у 1948-м, у Стакгольме створана Беларуская Грамада ў Скандынавіі.

**29 жніўня**

- 125 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Аляксандр Немцаў, археолаг, этнограф. Расстраляны ў 1938-м.

**31 жніўня**

- 165 гадоў таму, у 1768-м, нарадзіўся Раймонд Корсак, паэт. Памёр у 1817-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 7 (254), ліпень 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com